# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 9 (80) Верасень 2013 г.

## ЛЕКАР ІГАР ПАСТНОЎ НА ВОЛІ, АЛЕ «ЛЯЧЭНЬНЕ» БУДЗЕ ПРАЦЯГВАЦЦА

**20 верасьня віцебскі лекар Ігар Пастноў выйшаў на свабоду. Урачэбна-кансультацыйная камісія Віцебскага абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі, у якім Ігар Пастноў утрымліваўся гвалтоўна, прыняла рашэньне аб пераводзе яго на дзённы стацыянар. Ён па-ранейшаму мусіць праходзіць мэдычныя працэдуры, але начаваць будзе дома.**


Ігар Пастноў

Сам Ігар Пастноў называе сваё вызваленьне ўмоўна-датэрміновым, бо рашэньне суду аб прымусовым лячэньні не адмененае, і лячэньне, цяпер ва ўмовах дзённага стацыянару, будзе працягвацца. У інтэрвію, дадзеным па вызваленьні, Ігар Пастноў выказаў падзяку ўсім, хто змагаўся за яго вызваленьне: праваабаронцам, палітыкам, журналістам і проста неабыякавым людзям.

Ігар Пастноў вядомы сваёй крытыкай мясцовых уладаў на чале са старшынём Віцебскага аблвыканкаму Аляксандрам Косінцам. У сваіх відэазваротах, разьмешчаных у інтэрнэце, ён распавядаў пра жалю варты стан мэдыцыны ў рэгіёне і выкрываў карупцыю. На думку многіх, менавіта за свае публічныя выказваньні Пастноў і паплаціўся.

16 жніўня з санкцыі пракурора лекара гвалтоўна зьмясьцілі ў закрытае аддзяленьне псыхлякарні, у якой ён працаваў. 21 жніўня судзьдзя суду Віцебскага раёну Тацьцяна Дзегцярова вынесла пастанову аб прымусовым псыхіятрычным лячэньні доктара Пастнова. На судовым паседжаньні ні сам доктар, ні яго прадстаўнікі не прысутнічалі. Праз дапамогу праваабаронцаў Ігар Пастноў змог абскардзіць рашэньне суду першай інстанцыі. 12 верасьня Віцебскім абласным судом яго касацыйная скарга была пакінутая без задавальненьня.

**Зьмяшчэньне лекара ў вар'ятню выклікала вялікі розгалас у грамадстве. З патрабаваньнямі вызваленьня Пастнова выступілі актывісты грамадзянскай супольнасьці і праваабаронцы. Праваабарончая арганізацыя Amnesty International заклікала правесьці незалежную псыхіятрычную экспэртызу стану доктара і заявіла пра сваю гатоўнасьць прызнаць яго вязьнем сумленьня.**

## *Андрэя Гайдукова перавялі ў магілёўскую калёнію*


Андрэй Гайдукоў

Пакараны годам і 6 месяцамі зьняволеньня 23-гадовы грамадзкі актывіст, былы рабочы наваполацкага “Нафтану” **Андрэй Гайдукоў** пераведзены зь Віцебскага сьледчага ізалятару ў Магілёўскую калёнію №19. Паводле слоў яго сястры Марыі, пра гэта даведаліся родныя зьняволенага, калі прынесьлі ў сьледчы ізалятар перадачу:

*— У нас родныя ў Віцебску пайшлі перадаваць яму перадачу, а ім сказалі, што ён — у Магілёве. Афіцыйна ніхто нічога не паведамляў ні бацькам, ні адвакату. Мы думалі, што ён нейкі час яшчэ будзе ў Віцебску, а аказалася, што яго вельмі хуценька перавялі ў Магілёў.*

Андрэй Гайдукоў быў прызнаны вінаватым у спробе ўсталяваць супрацу з ЦРУ. 27 жніўня Вярхоўны Суд Беларусі разгледзеў яго скаргу і пакінуў прысуд у сіле. Хоць абодва суды праходзілі ў закрытым рэжыме, аднак у дзяржаўнай прэсе былі надрукаваныя некаторыя матэрыялы гэтай справы. Паводле меркаваньня праваабаронцаў, яны паказалі ня столькі вінаватасьць Гайдукова, колькі адсутнасьць складу крымінальнага злачынства ў яго дзеяньнях.

# Журналіст Ўладзімер Жыгулоў атрымаў папярэджаньне за супрацоўніцтва зь «Віцебскім кур'ерам»

**3 верасьня незалежнаму журналісту ў Віцебскай абласной пракуратуры вынесьлі афіцыйнае папярэджаньне за супрацоўніцтва без акрэдытацыі з выданьнем, не зарэгістраваным на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Уладзімер Жыгулоў адмовіўся даваць пракурору Паўлу Зайцаву тлумачэньні, спаслаўшыся на права ня сьведчыць супраць сябе, гарантаванае арт. 27 Канстытуцыі.**



Уладзімер Жыгулоў

І пракурор зараз жа агучыў афіцыйную паперу, якая была падрыхтаваная загадзя, распавёў праваабаронца Павал Левінаў: "Я прысутнічаў на сустрэчы з пракурорам у якасьці грамадзкага прадстаўніка Ўладзімера Жыгулова. І спадар Зайцаў, заявіўшы, што пракуратуры вядома пра парушэньне закону віцебскім незалежным журналістам, тут жа дастаў афіцыйную паперу. Яна ўжо была гатовая, дык што любыя тлумачэньні выкліканага ў пракуратуру Жыгулова ўжо нічога б ня важылі".

Колькі год таму калектыў газэты "Віцебскі кур'ер" прыклаў шмат намаганьняў для рэгістрацыі ў Беларусі. Але справа аказалася марнай. Пасьля некалькіх адмоваў, каб захаваць статус легальнай газэты, давялося рэгістравацца ў Расеі, у суседнім Смаленску. Але ўсе гэтыя гады пракуратуру выданьне не цікавіла і прэтэнзіяў да журналістаў не было. Сытуацыя зьмянілася пасьля таго, як на інтэрнэт-сайце газэты зьявіліся публікацыі пра ўрача Ігара Пастнова, зьмешчанага на прымусовае лячэньне ў псыхіятрычны шпіталь.

Кажа Ўладзімер Жыгулоў: "Шмат хто ў Віцебску лічыць, што Пастнова зьмясцілі ў псыхлякарню за крытыку ўладаў і сыстэмы аховы здароўя. Ён сам казаў, што яму гэтым неаднаразова пагражалі. Але супрацоўнікі шпіталю, дзе раней працаваў, а цяпер стаў пацыентам Ігар Пастноў, увагі журналістаў пазьбягаюць. Я тройчы безвынікова спрабаваў сустрэцца з Аленай Мартынавай, галоўурачом абласнога цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі. А яе намесьнік, да якога мяне паслалі, наогул ад гутаркі са мной ухіліўся: ён заявіў, што ня дасьць інтэрвію для незарэгістраванага ў Беларусі "Віцебскага кур'еру". Такім чынам, ніякага інтэвію і не было. Але намесьнік галоўурача Ігар Сьвіркуноў засьведчыў, што я да яго зьвяртаўся. І гэта стала галоўнай падставай, каб пракуратура мяне абвінавацíла".

**74-гадовы журналіст гаворыць, што папярэджаньне яго ня спыніць, бо ён лічыць яго незаконным. Ён кажа, што кожны чалавек мае права на атрыманьне і распаўсюд інфармацыі, незалежна ад таго, журналіст ён ці не. І што патрабаваньне акрэдытацыі і абавязковай мясцовай рэгістрацыі выданьня наогул становіцца ў Беларусі забаронай на прафэсію журналіста.**



За правы чалавека № 9 (80) Верасень 2013 г.

# *Распаўсюдніка ўлётак кампаніі «Гавары праўду» аштрафавалі на 2 мільёны*

Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Віцебску Алена Протас прызнала **сябра партыі левых «Справядлівы сьвет» Андрэя Андрэева** вінаватым у парушэньні артыкулу 22.9 КаАП (парушэньне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі) і прысудзіла яму штраф у памеры 20 базавых велічынь. Такому пакараньню партыйны актывіст быў падвергнуты за распаўсюд друкаванай прадукцыі **кампаніі «Гавары праўду»**. Гэтая прадукцыя, маўляў, зьяўляецца сродкам масавай інфармацыі, не зарэгістраваным у Рэспубліцы Беларусь.

Андрэй Андрэеў быў затрыманы 13 жніўня. Ён раскідваў улёткі з інфармацыяй пра **«Грамадзянскую дамову»** і **«Народны рэфэрэндум»** па паштовых скрынках. Імаверна, за ім сачылі — калі ён увайшоў у чарговы пад'езд, праз хвіліну у пад'езьдзе зьявіўся супрацоўнік міліцыі і прапанаваў актывісту праехаць зь ім у пастарунак. Амаль 700 асобнікаў улётак былі канфіскаваныя, на іх распаўсюдніка склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні.



Андрэй Андрэеў

У судзе Андрэй Андрэеў прызнаў, што распаўсюджваў улёткі і тым самым, магчыма, парушыў адміністрацыйны кодэкс. Але заявіў, што вінаватым сябе ня лічыць. Улічваючы, што правапарушэньне ён зьдзейсьніў упершыню, судзьдзя прызначыла яму мінімальны памер штрафу, прадугледжанага адпаведным артыкулам КаАП. Партыйны актывіст заявіў, што зьбіраецца абскардзіць рашэньне суду.

# Улады забаранілі пікет супраць разьмяшчэньня расейскіх вайсковых баз у Беларусі

**Адміністрацыя Кастрычніцкага раёну Віцебску забараніла актывісту КХП-БНФ Яну Дзяржаўцаву праводзіць пікет на знак пратэсту супраць разьмяшчэньня вайсковых баз Расейскай Фэдэрацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.** Пікет мусіў адбыцца 14 верасьня. Прычына забароны пікету — заяўнік ня выканаў умоваў рашэньня гарвыканкаму № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску».

Згаданае рашэньне было прынятае віцебскімі гарадзкімі ўладамі ў ліпені 2009 г. Яно патрабуе ад арганізатараў масавага мерапрыемства заключыць дамовы са службамі ЖКГ, міліцыі і мэдыкамі, перш як падаць заяўку на яго правядзеньне. Названыя службы ўсяляк ухіляюцца ад заключэньня патрэбных дамоваў, таму прадстаўнікам дэмакратычных сіл з моманту прыняцьця рашэньня № 881 не ўдалося правесьці ніводнай легальнай акцыі.


Ян Дзяржаўцаў

# Улады забаранілі прафсаюзу РЭП пікет у Віцебску


Валер Міснікаў

**Валер Міснікаў**, прававы інспэктар прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасьці па Віцебскай вобласьці, атрымаў адмову на сваю заяўку на правядзеньне пікету, прысьвечанага сацыяльным праблемам працоўных. Забараніла акцыю Адміністрацыя Чыгуначнага раёну Віцебску.

Паводле спадара Міснікава, пікет плянаваўся на нядзелю, 8 верасьня. Колькасьць удзельнікаў — адзін чалавек, а мэта - пратэст супраць прынятай Пастановы Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 чэрвеня 2013 г. № 569 «Аб мерах па рэалізацыі Закону Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей"».

**«Я лічу, што пастанова пра дзяржаўную дапамогу мае дыскрымінацыйны характар. Яна пагаршае ўмовы жыцьця пэўных сацыяльных катэгорыяў асобаў. Прыкладам, тых, хто працуе менш за паўгода. Тлумачу: раней сярэдні заробак для атрыманьня грошай падчас знаходжаньня на бюлетэні разьлічваўся за апошнія тры месяцы, а цяпер – за шэсьць. А калі чалавек уладкаваўся на працу два месяцы таму і захварэў? Заробак за два месяцы цяпер падзеляць на шэсьць, а раней дзялілі на тры. Атрымлівалася болей, а цяпер стала меней. Або такія зьмены: раней за першыя шэсьць дзён на бюлетэні плацілі 80% заробку, зь сёмага – ужо 100%. А цяпер 80% будуць на працягу 12 дзён. Для дзяржаўнага бюджэту атрымліваецца эканомія, а людзі – пацерпяць».**

Патлумачыць жыхарам Віцебску гэтую простую арытмэтыку праваабаронцу не дазволілі. З адміністрацыі Чыгуначнага раёну напісалі, што забараняюць акцыю на падставе рашэньня Віцебскага гарвыканкаму №881. Гэтае рашэньне на працягу апошніх трох гадоў зьяўляецца для ўладаў «законнай прычынай» для парушэньня права асобы на свабоду сходаў і публічнае выказваньне сваіх меркаваньняў. Прыняты ў ліпені 2009 году нарматыўны акт «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Віцебску» № 881 прад'яўляе дадатковыя і, як высвілася, практычна невыканальныя патрабаваньні да арганізатараў масавых мерапрыемстваў, якія ладзяцца без удзелу дзяржавы.

І хаця рашэньне Віцебскага гарвыканкаму супярэчыць частцы 4 артыкулу 6 Закону «Аб масавых мерапрыемствах», артыкулу 35 Канстытуцыі і артыкулу 19 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, гарадзкія чыноўнікі ў гэтым праблемы ня бачаць. Яны не пагаджаюцца зьмяніць сваё рашэньне, колькі гэтага ні дамагаюцца мясцовыя актывісты і праваабаронцы.

# Супраць Пятра Іванова зноў адмовіліся ўзбуджаць крымінальную справу

**Віцебскі праваабаронца Пётар Іваноў атрымаў са Сьледчага камітэту чарговае паведамленьне пра адмову ва ўзбуджэньні ў дачыненьні да яго крымінальнай справы. Раней сьледчыя органы ўжо двойчы выносілі пастановы аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы супраць яго, але потым тыя пастановы былі адмененыя. Ня выключана, што і чарговая пастанова будзе адмененая, і справа ўсё-такі будзе ўзбуджаная. Пятру Іванову па-ранейшаму пагражае зьняволеньне на тэрмін да 3-х гадоў.**



Пётар Іваноў

Справу супраць Іванова прасіў узбудзіць старшыня суду Першамайскага раёну Віцебску Андрэй Андрушэнка. На думку апошняга, Пётар Іваноў учыніў злачынствы, прадугледжаныя артыкуламі 361 (зьнявага судзьдзі), 369 (зьнявага прадстаўніка ўлады), 400 (загадзя фальшывы данос) Крымінальнага кодэксу.

Пачаткам усяму стала заява Іванова ў Сьледчы камітэт, у якой ён прасіў прыцягнуць да адказнасьці супрацоўнікаў праваахоўных органаў і судзьдзяў. У пастанове аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы паведамляюцца падрабязнасьці:

*У сваёй заяве Іваноў П.Я. патлумачыў, што ў дачыненьні да яго быў праведзены адміністрацыйны працэс з парушэньнем закону. Пасьля чаго судом было прынятае незаконнае рашэньне. Пры гэтым Іваноў П.Я. у сваёй заяве выкарыстоўваў наступныя фразы:*

*«Заяўляю пра зьдзяйсьненьне службовых злачынстваў асобамі дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь. Злачынца — начальнік аддзелу міжраённага ДАІ УУС Віцебскага аблвыканкаму падпалкоўнік міліцыі Сьцяпанаў А.Е. (далей па тэксьце - Злачынца) і судзьдзя суду Першамайскага раёну г. Віцебску Кісьмярошкіна В.І. (далей па тэксьце - Злачынка)».*

*«Першым учыніў у дачыненьні да мяне гвалт нейкі член міліцэйскага атачэньня (далей па тэксьце — ЧМО) у цывільным адзеньні. Актыўным памагатым Злачынца, які ўжыў да мяне гвалт, таксама аказаўся безыменны адмарозак у пагонах маёра міліцыі (далей па тэксце — Упір)».*

*«У дадатак да злачынстваў, учыненых А. Сьцяпанавым і В. Кісьмярошкінай і з мэтай іх утойваньня, былі зьдзейсьненыя новыя службовыя злачынствы. Іх зьдзейсьнілі злачынца-судзьдзя Віцебскага абласнога суду Іванова С.П., якая вынесла заведама неправасудную пастанову ад 08.05.2013 па сфабрыкаванай справе аб адміністрацыйных правапарушэньнях, і злачынца-судзьдзя суду Першамайскага раёну г. Віцебску Караблiна Н.В., якая вынесла заведама неправасудную пастанову ад 20.05.2013 па сфабрыкаванай справе аб адміністрацыйным правапарушэньні».*

Каб высьветліць, ці зьмяшчаюць тэксты Пятра Іванова зьнявагу судзьдзяў і прадстаўнікоў улады, сьледчы камітэт зьвярнуўся да экспэртаў. Для правядзеньня экспэртызы яго заявы і скаргі былі накіраваныя ў цэнтар дасьледаваньня беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук і ў Віцебскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя Машэрава.

Пакуль вынікаў працы экспэртаў няма, а безь іх прыняць рашэньне аб узбуджэньні крымінальнай справы немагчыма, паведамілі Іванову ў сьледчым камітэце. Тым ня менш усё яшчэ можа зьмяніцца — Сьледчы камітэт пастанавіў: «Пры паступленьні вынікаў дасьледаваньня зьместу тэксту заяваў і прыватных скаргаў Іванова П.Я. зь некарэктнымі выказваньнямі ў адрас службовых асоб Рэспублікі Беларусь... далучыць іх да матэрыялу праверкі, пры выяўленьні іншых абставін таго, што адбылося, разгледзець пытаньне аб неабходнасьці адмены гэтага рашэньня і правядзеньні дадатковай праверкі».

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.